Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 4. Вільня, Нядзеля, 18-га студзеня 1925 г. Год I.

## Важнае прызнаньне.

У Вільні істнуе польская палітычная арганізацыя пад назовам *„Бюро палітычных прац“*. Дзейнасьць гэнае арганізацыі, згуртаваўшае краёвыя дэмакратычныя польскія сілы, наагул, нічым сябе не выяўляе, апрача „добрых пажаданьняў“. Да лічбы такіх „добрых пажаданьняў“ трэба залічыць і апошняе яе выступленьне — дужа характэрнае і цікаўнае.

Бюро ўлажыла абшырны мэморыял *аб направе адносінаў на Усходніх Землях*, які падало віцэ-прэм'еру Тугутту, віцэ-міністру ўнутраных спраў Смульскаму і іншым уплывовым палітычным дзеячом. Вось галоўныя дамаганьні яго ў пераказе віленскага „Słowa“.

У галіне *адміністрацыі*—утварэньне вышэйшага адміністрацыйнага органу для нашага краю (аўтаномны Сойм у Вільні?), надзяленьне вялікшымі паўнамоцтвамі ваяводяў, аб'яднаньне ўрадаў, упрашчэньне набываньня абыватэльства.

У галіне *эканамічнай*: палягчэньне падатковых цяжараў (у Вільні ўрад узяў больш прамысловага падатку, чым у прамысловых цэнтрах Лодзі і Катовіц, а ў зруйнаванай Віленшчыне грунтовы падатак перавысіў гэткі-ж падатак у багатым Люблінскім ваяводзтве!), дапамога насяленьню крэдытам, завядзеньне ладу ў падатках, накладаных самаўрадамі.

У галіне *нацыянальнае палітыкі*: дапушчэньне ў віленскі ўнівэрсытэт матурыстаў няпольскіх гімназіяў, дзяржаўная дапамога беларусам у тварэньні ніжэйшае, сярэдняе і вышэйшае беларускае школы. Палёгкі для праваслаўнае царквы.

У *зямельнай* справе — чым хутчэйшае правядзеньне радыкальнае зямельнае рэформы на падставе падзелу панскіх абшараў паміж беларускімі сялянамі дзеля давядзеньня малазямельных сялянскіх гаспадарак да рацыянальнае велічыні, каб яны выпаўнялі роль дробных вытворцаў хлеба.

Трудна спадзявацца, каб што-небудзь з гэтых пажаданьняў *самых тутэйшых палякоў* з больш дэмакратычных групаў было зьдзейсьнена, — асабліва, калі справа йдзе аб *школьнае* і *зямельнае* пытаньне Праўда, ходзяць чуткі, быццам урад маніцца прызнаць беларускія атэстаты, але стаўляе, як варунак, вымаганьне, каб нашы матурысты здавалі ня толькі польскую літэратуру, гісторыю, геаграфію, але і матэматычныя навукі — *папольску*! І гэта ўжо шмат абніжае значэньне ўступкі... Затое аб дапамозе нашаму школьнаму будаўніцтву, *загарантаванай польскай канстытуцыяй і міравымі трактатамі*, і гаварыць ня прыходзіцца: вось-жа нават больш чым скромныя дамаганьні ў гэтай справе валэйшаўскіх дэлегатаў (куды скрамнейшыя за дамаганьні польскіх дэмакратаў!) былі прызнаны польскім урадам за... лішне вялікія!

Яшчэ горш прадстаўляецца справа зямельнае рэформы. Мэморыял Бюро адзначае (паводле „Słowa“), што „ад 80-х гадоў усе беларускія рэвалюцыйныя партыі дамагаюцца радыкальнае зямельнае рэформы“, што „факт, што буйнейшая зямельная ўласнасьць апынулася ў руках польскае інтэлігенцыі, прызнаны быў усімі беларускімі рэвалюцыянерамі за галоўную перашкоду вытварэньню самастойнага і сувэрэннага беларускага нацыянальнага арганізму“. І затым-то аўтары мэморыялу, ідучы *на прымірэньне з беларусамі*, стаўляюць дамаганьне зьніштажэньня гэтае перашкоды дарогай падзелу дворных зямель між беларускімі сялянамі.—Але нам ведама, што найбольш „радыкальны“ спаміж сяброў ураду п. Грабскага, а іменна віцэ-прэм'ер п. Тугут, мае ў гэтай справе свой асаблівы пагляд: так, зямлю трэба падзяліць, але... *ня спыняючы асадніцтва*! У найлепшым выпадку для беларускага насяленьня можа быць вызначана ня болей, як 50% зямельнага запасу, але і то ня дзеля малазямельных, а... для тых „тутэйшых“ жаўнераў, якія служылі і ваявалі ў *польскім войску*!

Паўтараем: пры такім рашучым разыходжаньні дамаганьняў мэморыялу з паглядамі ўраду немагчыма спадзявацца на іх зьдзейсьненьне. Але сам па сабе факт, што гэтыя дамаганьні *высказаны*, мае бясспрэчна вялікую вагу. У сувязі з праектам *адступленьня польскасьці на 70 кілямэтраў на захад ад радавае граніцы* (аб чым мы пісалі ў № 1 нашае часопісі ў ст. „Пачатак адступленьня“), дамаганьне падзелу „польскае“ зямлі між беларусамі *на ўсім прасторы Заходняе Беларусі і ліквідацыі гэтак галоўнае апоры польшчыны* прыходзіцца разглядаць, як прызнаньне самімі палякамі безнадзейнасьці ўсіх праектаў апалячаньня нашага краю і—*моцы і непераможнасьці беларускага нацыянальнага руху*.

Што гэта іменна так і трэба разумець, паказуе вялізарнае абурэньне органу абшарнікаў на аўтараў мэморыялу: перадавік „Słowa“ проста вінаваціць іх у тым, што—„у пагоні за міражам нацыянальнае Польшчы *зьмяншаюць нашую каралеўскую спадчынную тэрыторыю*“....

І хоць „Słowo“ стараецца прадставіць беларускі адраджэнскі рух, як нешта дужа слабое і бязгрунтоўнае (!), хоць гавора, быццам мы „ня маем ані вучыцялёў, ані падручнікаў для школаў беларускіх“,—жыцьцё на кожным кроку дае ўсё новыя і новыя доказы нашае сілы, нашае культурнае моцы (— творанае ўсім беларускім народам, ня гледзячы на рыжскія загарадкі!), нашае сьвядомасьці і нашае нязломнае волі быць вольным і самастойным народам. Гэта зразумелі аўтары мэморыялу і—*загаварылі адпаведным языком*.

## Завастрэньне гданскага канфлікту.

Як мы і прадбачылі, канфлікт польскага ўраду з Гданскам ня толькі не зьліквідаваны, але вырас да канфлікту з Высокім Камісарам Лігі.

### 1. „Нота“ Высокага Камісара.

Даем тэкст вельмі рашучай „ноты“, ці камунікату, які Высокі Камісар паслаў... гданскаму Сэнату—з даручэньнем апублікаваць яго ў прэсе:

„9 студня я прасіў польскага дыпляматычнага прадстаўніка прыняць меры, каб вярнуць „status quo ante“ (тое палажэньне, якое было да канфлікту,—папросту, зьняць усе скрынкі паштовыя...), каб папярэдзіць магчымасьць сумных здарэньняў, выкліканых зьмяшчэньнем паштовых скрынак на вуліцах Гданска.

„11 студня мяне паведаміў польскі дыпляматычны прадстаўнік, што яго ўрад ня можа прыхіліцца да маей просьбы...

„Дзеля таго я паведаміў п. Страсбургера, што, калі-б яго ўрад запраўды ня мог споўніць маей просьбы, я пачуў-бы сябе абязаным паведаміць Сэнат, каб ён **па майму жаданьню і на маю адказнасьць зьняў сам усе паштовыя скрынкі**, за вынятκам тэй, што зьмешчана на гмаху Польскага Генаральнага Камісара, якая — дзеля нятыкальнасьці ўсяго гмаху, як дыпляматычнага,—ня можа быць парушана.

„У справе гэтай вядуцца далейшыя перагаворы з п. Страсбургерам, з якім адносна да гэтага пытаньня я **яшчэ (!) астаўся ў кантакце** (!..)“.

Уканцы Высокі Камісар дадае, што польская дэлегацыя зьвярнулася да Генаральнага Сэкрэтара Лігі, які патрэбаваў ад яго выясьненьня польскага пагляду на справу.

### 2. Паседжаньне Палітычнага Камітэту Рады Міністраў.

14.I. Сабраўся на экстрэннае паседжаньне Палітычны Камітэт польскае Рады Міністраў, які, пасьля дакладу прэм'ера, адабрыў прадстаўлены апошнім плян дзейнасьці ўраду—як у галіне палітычнай, таксама і адносна да тых канкрэтных крокаў, якія мае ўчыніць урад на выпадак зьняцьця Гданскім Сэнатам паштовых скрынак. Усе пастановы Камітэту трымаюцца ў сакрэце.

### 3. Эканамічныя рэпрэсіі Польшчы проці Гданска.

Польскі ўрад мае апрацаваць рад мераў, каб націснуць на Гданск з боку эканамічнага, і гэтымі рэпрэсіямі змусіць яго да выкананьня жаданьняў Польшчы ў дробнай справе польскай пошты ў Гданску.

### 4. 14 студня—рашучы дзень...

Серада, 14 студня—гэта быў рашучы дзень у справе канфлікту, як апошні тэрмін, які даў Высокі Камісар польскаму прадстаўніку, дзеля самаахвотнага зьняцьця скрынак.

Аднак, польскі ўрад да назначанага часу скрынак ня зьняў, і гэта ўскладаецца на Гданскі Сэнат.

### 5. Неспадзяванка для польскага ўраду...

Польскае агенцтва (A. W.) наіўна паведамляе, што завастрэньне канфлікту зьявілася зусім не спадзяваным для польскіх палітычных сфэраў. Бо яшчэ ў-ва ўторак віцэ-прэм'ер Тугутт заяўляў аб зьліквідаваньні справы і толькі „на ўсякі выпадак“ зрабіў.. перад журналістамі „нязвычайна энэргічную заяву“.

### 6. Галасы польскай прэсы.

Здаецца, уся польская прэса—у адзін голас—падтрымоўвае слушнасьць польскага пагляду і энэргічнага становішча ўраду.

Правая прэса, апрача таго, найвыразьней кліча ўрад **да ваеннай экспэдыцыі** на непакорны Гданск, які хоча астацца Данцыгам...

### 7. Пункт гледжаньня Гданска.

Цяжка, ня маючы ўсіх дакумэнтаў, разабрацца ў тым, хто-ж з двух спорщчыкаў мае рацыю; але больш спакойнае становішча Гданскага Сэнату, падтрыманае Высокім Камісарам, у кожным выпадку загадвае быць асьцярожным у ацэнцы слушнасьці довадаў з польскага боку. З апублікаванай цалком заявы Сэнату да Высокага Камісара відаць, што Гданскі ўрад, стоючы на точным зьмесьце артыкулу 29 канвэнцыі 1920 г. і прысуду Высокага Камісара ў траўні 1922 г., зусім не адмаўляе Польшчы права **мець паштовы ўрад** у Гданску—для зносінаў **паміж портам і Польшчай**. Але гэты ўрад,—паводле канвэнцыі і прысуду Камісара,—мае мясьціцца на вызначаным дзеля яго будынкаў абшары і спаўняць толькі сваю працу

Вынікі нарадаў у Варшаве—ці-ж гэта не красамоўны адказ ураду на мэморыял віленскага польскага Бюро палітычных прац?!

**Статуты беларускіх культурных установаў.** Нам прыслалі статут валэйшаўскага таварыства „Прасьвета“, які прадстаўляе точную копію статуту Т-ва Беларускае Школы. Вось-жа статут „Прасьветы“ зацьверджаны ўладай у некалькі дзён, а статут Т-ва Беларускае Школы, пададзены дзеля зацьверджаньня ажно ў тым летку, усё яшчэ ляжыць пад сукном...

Тое-ж дзеецца і з статутам Беларускага Выдавецкага Т-ва, які чакае на зацьверджаньне ўжо другі год...

Як відаць, праўных перашкодаў дзеля адмовы зацьверджаньня гэных статутаў няма. Дый яны фактычна не патрабуюць зацьверджаньня, бо, згодна з законам, таварыства лічыцца законна істнуючым, калі ў працягу месяца ад падачы статуту ўлада не адкінула яго. Але адсутнасьць падпісанага ўладай і апублікованага ў урадовым органе статуту вельмі перашкаджае таварыствам у іх дзейнасьці, — асабліва, калі трэба рабіць нейкія нотар‘яльныя акты. Дык гэтая палітыка з зацягіваньнем зацьверджаньня статутаў беларускіх культурных установаў мае выразную мэту: рабіць ім перашкоды...

Характэрная была справа з статутам Беларускага Клюбу, які быў пададзены ўладзе дзеля зацьверджаньня групай беларусаў, не захацеўшых карыстацца „гасьціннасьцяй“ валэйшаўскага „Грамадзянскага Сабраньня“. Камісар Ураду на м. Вільню, п. Вімбор, адмовіўся зацьвярдзіць яго, кажучы, што клюбаў у Вільні і так лішне многа, — ды гэтак як быццам запрапанаваў карыстацца „беларускім“ клюбам п. Валэйшы, хаця цяпер сам-жа пасылае ў гэную шулерню лавіць „газардовую ігру і тайную прадажу гарэлкі і безбандарольных папіросаў“.

Ці не заняліся-бы гэтай справай нашы соймавыя дэпутаты, ды пры нагодзе ці ня высьнілі бы ў Варшаве, што беларускае грамадзянства ня можа лічыць „сваім клюбам“ нейкі ігорны прытон? А то клюб нам бязумоўна патрэбен!..

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва шчыра дзякуе за ахвяры, прысланыя ў музэй імені Івана Луцкевіча: 1) грам. Сьцяпану Шчыглінскаму ў Баяршчыне — за II том кніжкі „Jagiellonki polskie“ і 4 манэты; 2) Студэнту Куніцкаму — за геаграфічныя карты і друкі з перадвыбарнае агітацыі 1922 году; 3) Студэнту Янцы Станкевічу—за кніжку „Conflit polono-lithuanieu. Question de Vilna, 1918—1924 г.“.

**Кумпаны пасварыліся.** „Грам. Голас“ абвяшчае, што „Грамадзянскае Сабраньне“ забараніла ўваход у памяшчэньне „Сабраньня“ сябру свайму, Уладыславу Знамяроўскаму, „за зробленую ім правакацыю“.

Цікава тут ня тое, што сябры валэйшаўскае шулерні займаюцца правакацыяй: гэта-ж іх штодзенны хлеб!—а тое, што Знамяроўскі быў першым кумпанам Валэйшы і фінансаваў гэтае даходнае прадпрыемства....

**Звальненьне з сэмінарыі арх. Філіпа.** Сынод праваслаўнае царквы ў Польшчы зволніў арх. Філіпа Морозова з становішча вучыцеля віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі.

**Кошты ўтрыманьня паліцыі ў Віленшчыне.** Міністэрства ўнутраных спраў паведаміла дэлегатуру ў Вільні, што кошт утрыманьня паліцыі ў Віленшчыне ў працягу 1925 году аблічаны ў суме 7.775,827 злотых (бязмала 8 міліёнаў!). Усе самаўрады Віленшчыны павінны ўзяць на сябе чверць гэтае сумы, значыць — 1.946,957 зл. (блізу два міліёны!), у тым ліку на м. Вільню выпадае 634,513 злотых.

**Камуністычная літэратура ў баранавіцкіх казармах.** У баранавіцкіх казармах знойдзена пачка камуністычных праклямацыяў—з пратэстам польскай камун. партыі проці выдачы і арышту пасла Ланцуцкага. Арыштаваны нейкі Іванаў, але няведама, як пішуць газэты, ці ён мае сувязь з гэтай агітацыяй.

**„Ваенная школа“ на „Крэсах“.** У „Сегодня“ пішуць з Бярэсьця:

На балю ў мясцовым польскім спартыўным таварыстве, на якім было наладжана „кабарэ“, у часе перарыву да аднаго з артыстаў, паляка Кассакоўскага, падыйшоў польскі-ж ахвіцэр Мацюлевіч і патрэбаваў паўтарыць выхад спадабаўшайся яму артысткі... Кассакоўскі адказаў, што гэта немагчыма, бо канцэрт ужо скончыўся. Тады Мацюлевіч закрычаў: „Я—афіцэр польскай арміі, і я вам прыказываю!“

Артыст спакойна адказаў, што афіцэр можа прыказываць толькі ў сябе ў палку.— Тады парučнік Мацюлевіч пайшоў у разьдзявальню, прынёс адтуль шаблю і 3 ударамі шаблі забіў на мейсцы артыста...

Гэты прыпадак зрабіў вялікае хваляваньне як у месьце, так і ў-ва ўсей Польшчы.

**Арышт шпіга.** „Słowo“ піша, што ў Вільні арыштаваны нейкі Станіслаў Блінстраўб, абвінавачаны ў тым, што прыехаў сюды дзеля шпігоўства на карысьць літоўскага генаральнага штабу.

Пры гэтым быццам выкрыта літоўская шпігоўская арганізацыя, якая працавала ў паразуменьні з нямецкай і расейскай разьведкай. Агенты гэтае арганізацыі стараліся папасьці на службу ў палітычнай паліцыі і ў іншых установах аховы публічнае бясьпечнасьці.

Справа Блінстраўба аддадзена пракурору.

---

Ужо некалькі разоў мы даводзілі да ведама нашых паважаных падпішчыкаў, што тым, хто ня плоціць за газэту, а прынамся не паведамляе, што плаціць ня можа, а газэту атрымліваць хоча — газэта высылацца ня будзе.

Цяпер 3 першыя №№ „Беларускай Долі“ мы разаслалі **ўсім** падпішчыкам як, **пробные**, а надалей будзем выслаць толькі платным і тым, хто аб гэта прасіць будзе.

(Тым, хто ўжо прасіў аб высланьне газэт ў 1925 г.—высылаем бязупынна).

У першы чарод спынім газэту падпішчыкам за №№: 1, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 13, 15, 16, 17, 18, 19, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 45, 46, 47, 48, 49, 50, 51, 52, 53, 54, 55, 56, 57, 59, 61, 62, 63, 64, 65, 66, 67, 68, 69, 71, 73, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81, 82, 83, 84, 85, 86, 87, 88, 89, 90, 91, 92, 93, 94, 95, 96, 97, 98, 99 і 100.

Тэрмін для паведамленьня ці высылкі грошай—1 лютага 1925 г.

Матэрыяльныя абставіны газэты вельмі цяжкія і толькі добрая воля і акуратнасьць падпішчыкаў можа падтрымаць яе істнаваньне.

Хто мае магчымасьць плаціць, а хто не— мы судзіць ня можам, скажам толькі адно: чалавеку здароваму і моцнаму — жабраваць сорамна, таксама маючаму змогу плаціць за газэту, сорамна карыстацца ею дарэмна.

**Адміністрацыя.**

---

# Карэспандэнцыі.

## Паночку, ты ўжо і спалохаўся!

*(Старавейскай вол., Слонімскага пав.).*

Вельмі добрыя тыя сяляне, якія сядзяць у хаце, нічога ня знаючы, ня бачучы, што робіцца на велькім сьвеце, і даюць ашукаць сябе ў захалуснай вёсцы тым, хто можа гэта зрабіць. Войт ці пісар, або паліцыянт, якія найчасьцей паціраюцца каля селяніна беларуса, як толькі хто захоча ведаць праўду—закон, як павінна начальство аднасіцца да сялян, а сяляне да начальства, — дык таго ўжо завуць „палітыкантам“.

Вось як гэта ёсьць у Старавейскай воласьці, у вёсцы Вострава. Сяляне гэтае вёскі даведаліся, што ў Вільні выходзіць беларуская газэтка „Сялянская Праўда“. Узялі ды паслалі грошы ў рэдакцыю. А газэта йдзе. У гэным Востраве йдзе вясковая газэта двум сялянам.

Не спадабалася гэта войту Старавейскай воласьці, пану Ляўданскаму. Бо ў той воласьці ёсьць некалькі шляхтуноў польскіх, але яны хаваюцца ано дзеля лякарства на „Wojtów i zastępców“. А беларусаў ёсьць больш і шмат вучонейшых за гэных шляхтуноў. Але куды іх! мусіць, няма гэтакага закону, каб іх староста дазволіў выбраць за войта, „bo to nie jest polak“.

Прыйшоў Востраўскі солтыс у воласьць. Адразу яму войт і гаворыць: „Чаму гэта ты, солтыс, распусьціў сваю вёску? Узялі, павыпісвалі некіх газэт, сталі займацца палітыкаю. Але заўсёды, дзе солтыс палітыкаю займаецца, там і падаткаў ня плацяць? Гэта Вострава і Ярнява сталі палітыкаю займацца“.

Але, мусіць, той-жа пан войт нічога не сказаў-бы, каб выпісвалі польскія газэты, што сяляне беларусы нічога не паймуць у іх. Калі-ж на сваёй мове чытаем, „дык ты ўжо і спалохаўся“!!!

**Беларус.**

## Пуглівы вучыцель.

*(В. Цярабостунь, Нясьвіжскага пав.).*

У нашай вёсцы з 1921 году вучыць адзін вучыцель, нейкі Язэп Цьвірка, у адносінах да тутэйшага сялянства ён вельмі ганарысты, так што ня хоча нават ні з кім гаварыць, нікога не дапускае ў свае памешканьне, пагражаючы рэвальвэрам, а прыклад гэтага ёсьць такі.

У кастрычніку месяцы с. г. сяляне нашай вёскі сабраліся каля дванаццацёх чалавек і пашлі да яго, каб ён напісаў прашэньне да Сойму аб зямлі.

Той, угледзіўшы гэтую кучку людзей, замкнуў дзьверы і, схапіўшы рэвальвэр, крычаў: „уцякайце адгэтуль, бо буду страляць!“.

Сяляне давай гаварыць яму, у чым справа; тагды ён сказаў: „Выйдзіце ўсе на вуліцу, а тагды няхай прыдзе каторы адзін, то я з ім буду гаварыць“.

Але сяляне казалі яму: „Ды мы-ж, пане, не бандыты, чаго пан нас баіцца?“.

Пачуўшы гэтыя словы, ён закрычаў яшчэ зласьней: „Уцякайце ўсе вон, бо буду страляць праз вакно!“.

Тады сяляне ўзялі ды пашлі, як журавель ад лісы з госьцяў.

**Вясковы.**

## „Нашы паны“.

*(В. Доўгае, Наскоўскае гм., Пружанскага пав.).*

Вось, што было. Каля вёскі жывець памешчык, Крашэўскі. Зямля яго граічыць з сялянскай. У часе першых марозаў сяляне выпусьцілі сваю скаціну і сьвіней на сваё поле. У адней беднай удавы Софіі Саўчук і другой удавы, Кацярыны Субтэльнік, былі выпушчаны парасяты, і гэтыя парасяты ўзышлі на панскае поле. Пан, бачучы гэта, нацкаваў на іх сваіх сабак. Адно парася разарвалі на сьмерць, а другое загналі ў сажаўку пад лёд. Жанчына шукала сваю згубу, ды не знайшла. А цераз тры дві пан, рад з сваей дабычы, дастаў парася спад лёду і ўзяў сабе. Мужыкі, бачучы гэта, пачалі пытацца ў пана, на што ён цкуе сабакамі, а ён і гавора мужыкам, што „вашы сьвіньні на маім полі зьядуць усе каменьні.

Вось, што робяць паны з мужыкамі. І што ты з гэткім зробіш?

23 лістапада з маёнтку Стары Куплін сын пана Марачэўскага з сваім шваграм былі на паляваньні. Едучы з паляваньня праз вёску Доўгае, і не папаўшы ніякае дабычы, выехалі за вёску і ўбачылі, што бяжыць котка. Дай і забілі яе і хацелі забраць. Мужыкі сталі сьмяяцца, што панам мала зайцаў, а б‘юць нашыя коткі на мяса! Так і вашым коткам і па полі ня можна хадзіць за панамі.

**Воўчык.**

# Усячына.

## „Нацыянальна настроены“ кат.

Варшаўскія газэты наказуюць, што ў канцэлярыю Сойму прыслана нечыя просьба даць становішча ката—дзеля вешаньня засуджаных на сьмерць. Кандыдат на гэтае „пачэснае“ становішча вымагае: 1) захаваньня тайны яго іменьня; 2) пэнсію начальніка аддзелу; 3) білету 2 клясы на дармовы праезд чыгункамі; 4) паліцэйскае ахраны пры выпаўненьні „прафэсіянальных“ абавязкаў.

Але найбольш характарна тое, што ў канцы піша гэны кандыдат на ката: ён кажа, што хацеў-бы выпаўняць сваю прафэсію ў Польшчы затым, што ён „**нацыянальна настроены**“!..

# Паштовая скрынка.

М. К. Сычу. Усе наагул беларускія кніжкі можна выпісываць у Беларускай кнігарні: Вільня, Завальная 7.

М. Штушцы і Андрэю Пугачу. У Беларуск. кнігарні—Вільня, Завальная 7, можна дастаць беларускі каляндар, выдадзены „Грамадзянскім Сабраньнем“. Другога няма.

А. Пугачу, В. Грудзеву, „Молодзьбіту“, М. Штушцы і „Зязюлі“. Атрымалі.

Ад: Мар‘і Тоўсьцік, Пятра Высоцкага, Пятра Міхноўскага, Ю. Елінскага, Язэпа Карыцкага, Баляслава Будзькі, Кузьмы Ляшчынскага, Валадзімера Тышкевіча, Віктара Хведчэні, Аляксандра Лыча, Аляксандра Люткевіча, Тодара Стахоўскага, Сымона Захаронка, Аляксандра Захаронка, Хведара Калясінскага — **атрымалі па 2 зл.**

Ад: Базыля Літвінчыка, Лаўрэна Парфяновіча і Браніслава Карніцкага — **атрымалі па 3 зл.**

Ад: Д. Марчука, Ігната Малойла, Яна Сініцкага і Аляксандра Антановіча — **атрымалі па 4 зл.**

Ад Яна Марчука — **атрымалі 4 зл. 50 гр.**

Ад Язэпа Каспара — **атрымалі 5 зл.**

Ад Паўла Серкевіча і Міхала Лапы — **атрымалі па 6 зл.**

# АБВЕСТКІ

(За зьмест абвестак, якія зьмяшчаюцца пад гэтым загалоўкам Рэдакцыя адказнасьці на сябе не бярэ!).



Рэдактар-Выдавец Антон Пракапеня. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.